Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 630.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Серада, 8 красавіка 1998 г. № 36 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Вярхоўны суд ліквідаваў шэсць партыяў

**Пасля праверкі дзейнасці палітычных партыяў, праведзенай міністэрствам юстыцыі, Вярхоўны суд Беларусі ліквідаваў шэсць з іх.**

Сярод ліквідаваных: Партыя аматараў піва, Беларускі навукова-вытворчы кангрэс, Беларуская аб'яднаная спартыўная партыя, Партыя народнай згоды, партыя «Ачышчэнне» і Народная партыя «Адраджэнне» (была, аказваецца, і такая). Такім чынам, у Беларусі цяпер засталося 29 палітычных партыяў.

Як паведаміў прадстаўнік мінюста Уладзімір Мацвееў, такія праверкі будуць праводзіцца пастаянна. Сярод асноўных прычынаў ліквідацыі партыяў Мацвееў назваў адсутнасць у іх неабходнай колькасці членаў (павінна быць не менш чым 500) і рэальнай палітычнай дзейнасці. Апрача гэтага, было вынесена 10 папярэджанняў розным грамадскім аб'яднанням, якія своечасова не прадставілі ў мінюст справаздачу аб сваёй бухгалтарскай дзейнасці.

*БелаПАН*

### «Чарнобыльскі шлях-98»

Група вядомых апазіцыянераў (сярод іх — Юрый Хадыка, Лявон Баршчэўскі, Станіслаў Шушкевіч і іншыя) падала ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне 25 красавіка ў Мінску шэсця «Чарнобыльскі шлях-98». Плануецца, што ўдзельнікі акцыі збяруцца на традыцыйным месцы каля Акадэміі навук і па праезнай частцы праспекта Скарыны пройдуць да Палаца спорту, дзе адбудзецца жалобны мітынг. Заяўленая колькасць удзельнікаў акцыі — да 15 тысячаў чалавек.

*БелаПАН*

### Палата змагаецца з «рэабілітацыяй фашызму»

**Дэпутаты прэзідэнцкага парламента адмовіліся ўключыць у парадак дня сесіі пытанне аб ратыфікацыі беларуска-нямецкага пагаднення «Аб доглядзе за ваеннымі магіламі».**

Як распавёў нам член палатачнай камісіі па міжнародных справах Пётр Жушма (а ён быў дакладчыкам па гэтым пытанні), *«супрацьўленне аказалі камуністычныя сілы»*. На пленарным паседжанні была зачытаная заява рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў, якія сцвярджаюць, што гэтае пагадненне з'яўляецца *«спробай рэабілітацыі фашысцкіх злачынстваў»*. На думку ветэранаў, яно *«паставіць на адну дошку герояў-патрыётаў і фашысцкіх карнікаў»*. На гэтым пагадненні, мауляў, пэўныя колы хочуць *«нажыць сабе палітычны капітал»*. Як падагульняецца ў заяве, *«злачынствам фашызму няма і не будзе прабачэння»*. Палатачныя дэпутаты прыслухаліся да ветэранаў і вырашылі адкласці ратыфікацыю гэтага міжурадавага пагаднення, падпісанага ў 1996 годзе.

Пагадненне дае магчымасць нямецкаму боку закласці магілкі нямецкіх салдатаў, якія загінулі ў нашай краіне падчас Першай і Другой сусветных войнаў. У асобных выпадках на тэрыторыі Беларусі могуць быць устаноўленыя памятныя знакі нямецкім салдатам. Урад ФРГ зробіць гэта за свой кошт і забяспечыць догляд беларускіх магілаў на тэрыторыі Нямеччыны.

Але міласэрнасці і прымірэння ад палаты цяжка дачакацца. Напрыклад, член палатачнай камісіі па адукацыі і культуры Валерый Драко лічыць, што *«нельга на нашай зямлі ствараць мемарыяльныя знакі фашыстам»*. Па яго словах, камісія па міжнародных справах будзе зноў разглядаць гэтае пытанне, запрасіўшы кіраўніцтва ўрада.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

### Журналісты выйшлі на «справу»

**Група журналістаў з раённай газеты «Чачэрскі веснік» аб'ехала на машыне гаспадаркі роднага раёна і сярод белага дня скрала трох кароў, чатырох цялят, бычка, парсючка і два мяхі зерня.**

Усё гэта адбывалася на вачах у начальніка Чачэрскага райаддзела міліцыі Мікалая Мамекіна, які фактычна кіраваў гэтым журналісцкім эксперыментам. Эксперымент паказаў, што з усіх наведаных гаспадарак адпор «рабаўнікам» далі толькі ў трох, а ў астатніх, пры жаданні, можна было вывесці з фермаў хоць усю жывёлу. І гэта ўдзень! А ноччу, па словах міліцыі, парадку няма нідзе. Напрыклад, нядаўна ў калгасе «50 гадоў БССР» злодзеі ноччу вывелі з фермы дзвюх кароў, тут жа іх зарэзалі і, не спяшаючыся, асвежавалі. П'яны вартаўнік у гэты час мірна спаў у карыце...

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

*Актывістаў Маладога Фронту аббінавачваюць у «арганізацыі масавых беспарадкаў» і «злосным хуліганстве». Ім пагражае ад 1 да 5 гадоў пазбаўлення волі*

## Гарачы красавік

**Пасля несанкцыянаванага апазіцыйнага шэсця, што адбылося 2 красавіка ў Мінску, на сталічных вуліцах былі схопленыя многія актывісты Народнага Фронту.**




*Пікет у абарону сваіх зняволеных сяброў правялі ў мінулую нядзелю ў Мінску актывісты БНФ.*

Вячаслаў Сіўчык, Ясь Абадоўскі, Лявон Васючэнка і Аляксандр Кашэня атрымалі ў судах ад 5 да 15 сутак арышту. А на лідэра Маладога Фронту Паўла Севярынца і чатырох ягоных калегаў заведзеныя крымінальныя справы па артыкулах «арганізацыя масавых беспарадкаў» і «злоснае хуліганства». Ім пагражае ад 3 да 5 гадоў пазбаўлення волі. Севярынец цяпер знаходзіцца ў СІЗО на вул.Валадарскага.

На думку кіраўніцтва БНФ, жорсткая расправа ўладаў над мірнымі дэманстрантамі засталася пакуль незаўважанай беларускай і міжнароднай грамадскасцю. Намеснік старшыні Народнага Фронту Сяргей Папкоў лічыць, што расійскія СМІ зусім па-рознаму ставяцца да парушэння правоў чалавека ў Беларусі і Латвіі. Напрыклад, ужо цэлы месяц расійскія палітыкі і СМІ каментуюць пытанне аб сутыкненні рускамоўных дэманстрантаў і паліцыі ў Рызе. *«Разгон рыжскай дэманстрацыі ў параўнанні з падзеямі 2 красавіка ў Мінску выглядае менш жорсткім, без пацярпелых людзей. Гэта ўсё не проста так, а сведчыць аб значных змяненнях у расійскай палітыцы»*, — лічыць С.Папкоў.

Не чакаючы рэакцыі на мінскія падзеі з Захаду і Усходу, кіраўніцтва Народнага Фронту распаўсюдзіла заяву пад назвай «Палітычная расправа над абаронцамі незалежнасці». У ёй, у прыватнасці, канстатуецца, што асноўныя рэпрэсіі ўладаў накіраваныя супраць актывістаў БНФ і моладзі. Фронтаўскія лідэры звяртаюцца да міжнародных арганізацыяў з заклікам прыняць адпаведныя санкцыі супраць беларускіх уладаў, выступіўшы ў абарону палітзняволеных. *«Для жорсткіх рэпрэсіяў супраць удзельнікаў шэсця 2 красавіка не было ніякіх падставаў, паколькі акцыя насіла мірны характар»*, — адзначаюць апазіцыянеры.

Адзін з лідэраў Маладога Фронту Яўген Скочка сцвярджае, што арышт Паўла Севярынца — гэта не першая спроба ўладаў расправіцца з прадстаўнікамі маладой апазіцыі. *«Зараз, калі Павел сядзіць на «валадарцы», Малады Фронт правядзе шэраг акцыяў у яго абарону. Альбо ўлады адпусцяць П.Севярынца, альбо яны атрымаюць тое, што заслугоўваюць»*, — зазначыў маладафронтаўскі актывіст.

А тым часам у сталіцы ўжо з'явіліся ўлёткі з заклікам да грамадзянаў прыйсці ў суботу ў 17 гадзінаў на мінскую плошчу Свабоды, каб выказаць свой пратэст супраць палітычных рэпрэсіяў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ, Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Свабода прэсы ў Беларусі: дзве справаздачы для ААН

*У гэтыя дні ў Жэневе (Швейцарыя) праходзіць сесія Камісіі ААН па правах чалавека*

### Незалежная справаздача

Спецыяльна да гэтай падзеі Міжнародны цэнтр барацьбы з цэнзурай «Артыкул 19» падрыхтаваў інфармацыйную даведку аб парушэннях свабоды слова ў Беларусі.

Беларускім уладам дасталося за ўсё. Замежныя праваабаронцы скрупулёзна сабралі і прадставілі на разгляд камісіі спіс шматлікіх канкрэтных парушэнняў беларускімі ўладамі міжнародных нормаў у галіне свабоды СМІ.

У «чорны спіс» трапіла закрыццё недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі (у прыватнасці, газеты СВАБОДА і радыё 101,2); збіццё, затрыманні, крымінальны пераслед журналістаў за выкананне імі прафесійных абавязкаў; «белыя плямы» ў газетах у 1994 годзе; арышты рахункаў недзяржаўных газетаў, забарона друкавацца на тэрыторыі рэспублікі — усё гэта і многае іншае для беларускага чытача даўно не з'яўляецца навіной. Апроч таго, беларускаму прэзідэнту прыгадалі і славуты дэкрэт нумар пяць, які істотна абмяжоўвае правы грамадзянаў на сходы і вольнае выказванне сваіх думак.

«Артыкул 19» нагадвае беларускім уладам, што Беларусь у свой час падпісала міжнароднае пагадненне па грамадскіх і палітычных правах чалавека і мусіць выконваць ягоныя патрабаванні. У прыватнасці, той самы артыкул 19, дзе якраз і гаворыцца пра свабоду пераканання і вольнае іх выказванне. Беларусь таксама ўваходзіць у Арганізацыю па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ), а адным з патрабаванняў гэтай уплывовай міжнароднай арганізацыі з'яўляецца свабода прэсы і іншых сродкаў масавай інфармацыі.

Яшчэ летась «Артыкул 19» падрыхтаваў рэкамендацыі беларускаму ўраду, каб палепшыць сітуацыю з сродкамі масавай інфармацыі ў Беларусі. Сярод пралануемых захадаў — дакладна выконваць міжнародныя патрабаванні аб свабодзе прэсы, адмовіцца ад дзяржаўнага кантролю за дзейнасцю як дзяржаўных, так і недзяржаўных мас-медыя, дапамагаць журналістам выконваць свой прафесійны абавязак, як мага актыўней развіваць дзейнасць недзяржаўных радыё- і тэлекампаніяў і г.д. Але зразумела, што сённяшні беларускі рэжым ніколі не адмовіцца ад сваёй манаполіі на інфармацыю.

### Беларуская афіцыйная справаздача

На сесіі Камісіі ААН па правах чалавека прысутнічае таксама афіцыйная беларуская дэлегацыя. Яна стойка абвяргае ўсе абвінавачванні ў бок беларускага ўрада і прэзідэнта. Мауляў, з 1.043 выданняў, зарэгістраваных на сённяшні дзень у Беларусі, дзяржаўную падтрымку атрымліваюць толькі 43 выданні, і ў першую чаргу гэта беларускамоўныя газеты і часопісы. Разам з 112 дзяржаўнымі друкарнямі ў Беларусі працуюць і 117 недзяржаўных. З 224 выдавецтваў дзяржаўныя — толькі 54. Карацей кажучы, поўная свабода і росквіт дэмакратыі.

Але ў гэта цяжка паверыць нават замежнікам. Бо пасля заканчэння беларускага афіцыёзу перад камісіяй выступіў актывіст Хартыі-97, былы намеснік міністра замежных справаў Андрэй Саннікаў. Ён распавёў пра апошнія падзеі ў Беларусі, у прыватнасці, як улады распраўляліся з дэманстрантамі 2 красавіка. А такія факты лепей за ўсё сведчаць пра тое, як у Беларусі прытрымліваюцца правоў чалавека.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Дзіцячы прытулак у Брэсцкай крэпасці

*Непадалёк ад мемарыяла «Брэсцкая крэпасць» будзе пабудаваны дзіцячы прытулак*

Невыпадкова месцам размяшчэння богаўгоднай установы выбрана шматпакутная зямля: да знішчэння горада па загадзе расійскага імператара Мікалая І дзеля будаўніцтва крэпасці ў пачатку XIX стагоддзя тут размяшчаліся храмы — каля 30 касцёлаў і манастыроў розных каталіцкіх ордэнаў.

Ініцыятарам стварэння дзіцячай установы з'яўляецца айцец Ігар, настаяцель Свята-Мікалаеўскага гарнізоннага сабора. Сабор мае багатую гісторыю. Ён размяшчаецца побач са штыкомабеліскам мемарыяла, пасля вайны не дзейнічаў і толькі шэсць гадоў таму пачаў аднаўляцца. Па рашэнні брэсцкіх уладаў Свята-Мікалаеўскі сабор атрымаў паўразбураныя будынкі вайсковай часці, якая некалі размяшчалася паблізу мяжы; цяпер там пачаты работы. Як хутка будзе ўладкавана богаўгодная ўстанова, залежыць ад грашовых сродкаў, якіх на гэтыя мэты царква не мае.

*БелаПАН*

# Мяса на ўсіх не хапае

**Міністэрства сельскай гаспадаркі ўводзіць жорсткія абмежаванні на продаж мяса і малака.**

Міністр Іван Шакола разаслаў ва ўсе аблвыканкамы тэлеграму, у якой паведамляе: *«Катэгарычна забараняецца рэалізацыя мяса, мясапрадуктаў, малака, малакапрадуктаў камерцыйным структурам, не зацверджаным выканаўчымі камітэтамі».* Такім чынам, цяпер мясцовы чыноўнік будзе вырашаць, хто можа прадаваць каўбасу і кефір, а хто не.

**М.Н.**



*На здымку: у мінскіх крамах свініна стала дэфіцытам.*

# «Дойную карову» хочуць прывязаць

Улады вырашылі падпарадкаваць сабе прадпрымальніцкі рух, і дзеля гэтага ў канцы траўня ў Мінску будзе праведзены з'езд прадпрымальнікаў. Дэлегаты на яго ўжо абраныя — хуценька і без лішняй рэкламы. Наш карэспандэнт гутарыць на гэтую тэму са старшынём Гродзенскага абласнога прафсаюза прадпрымальнікаў Валерыем ЛЕВАНЕЎСКІМ.

**— Сёлета вам удавалася збіраць на свае сходы больш за 1 тысячу прадпрымальнікаў. А наколькі прадстаўнічымі былі сходы, якія збіраліся ўладамі, каб вылучыць дэлегатаў на з'езд?**

— Сходы былі праведзеныя ў абодвух адміністратыўных раёнах горада, на адным прысутнічала чалавек 60, на другім — каля 120. Хаця ў Гродне 10 тысячаў чалавек займаецца прадпрымальніцтвам. Я сам даведаўся пра гэта мерапрыемства толькі з газетаў. Мяне не запрасілі, хоць я прадстаўляю даволі вялікае кола прадпрымальнікаў. І так было паўсюдна — і ў нашай вобласці, і па Беларусі. Уладам было патрэбна, каб без лішняга шуму зацвердзілі іхнія кандыдатуры ў якасці дэлегатаў. Мы ўмяшаліся і прымусілі ўключыць у спіс хоць некалькі нашых дэлегатаў.

**— Цікава, па якіх крытэрыях улады падбіралі дэлегатаў?**

— Яны давяраюць людзям малавядомым, ні ў якім выпадку не актывістам нашага руху. Галоўны крытэрый: каб не было парушэнняў і каб плаціў вялікія падаткі. Спісы склалі ў падатковай інспекцыі. Такім чынам, кандыдатаў у дэлегаты з'езда адбірала падатковая інспекцыя.

**— Як вы лічыце, навошта ўладам патрэбен гэты з'езд?**

— На сходзе мы так і не пачулі: якая мэта з'езда, якія яго паўнамоцтвы? Ясна адно, што ўлады хочуць забіць двух зайцаў. Паказаць Захаду, што яны нібыта дбаюць пра нас. А падругое: уладам хочацца падмяць нас пад сябе, таму што прадпрымальніцкі рух набірае сілы. А раз так, дык трэба яго раскалоць, падзяліць.

**— Вы пакуль не адмовіліся ад задумы стварыць уласную партыю?**

— Мы — палітычна нейтральная сіла, мы выступаем за эканамічна свабодную Беларусь і гатовы супрацоўнічаць з усімі партыямі. Першым нашым крокам да арганізаванасці стала стварэнне прафсаюза. Мы ведаем, што Амерыку 30-ых і Польшчу 80-ых гадоў вывелі з крызісу прафсаюзы. Але там былі рэальныя палітычныя сілы, якія мелі вялікую фінансавую падтрымку, і не было такіх суровых абмежаванняў у правядзенні мітынгаў і такога пераследу за іншадумства, як у Беларусі. У нас за гэта пагражае арышт або штрафы, якія перавышаюць месячны заробак у 100 разоў.

Мы разумеем, што для ажыццяўлення сваіх мэтаў аднаго прафсаюза будзе мала. Хаця нам могуць і перашкодзіць стварыць сваю партыю. Прадпрымальнік — эканамічна незалежны чалавек, і чым больш іх, тым менш яны паслухмяныя. Любы дыктатар не любіць прадпрымальнікаў, таму што яны ад яго не залежаць.

**— На свой сакавіцкі мітынг вы запрашалі кіраўнікоў Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Хто з вас каму больш патрэбны?**

— У нас з імі завязаліся добрыя кантакты, пазіцыя сходная практычна па ўсіх пытаннях. Мы заклікаем прадпрымальнікаў уступаць у АГП, пакуль у нас няма сваёй партыі. Па вялікім рахунку нам патрэбна не партыя дзеля партыі, нас цікавіць стварэнне руху за эканамічную свабоду, у якім маглі б аб'ядноўвацца розныя сілы. А канчатковая мэта — выхаваць, выгадаваць палітыка, адзінага кандыдата на будучых прэзідэнцкіх выбарах. Пакуль новага чалавека, які мог бы ўзначаліць дзяржаву, я не бачу. Але мы гатовы яго падтрымаць. Галоўная мэта — эканамічна незалежная Беларусь, у якой нашыя дзеці будуць жыць у нармальных умовах.

*Гутарыў*
**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

*Як жыве сярэднестатыстычная беларуская сям'я*

# Сямейны бюджэт

Наш народ і раней не жыў у раскошы, але цяпер, як сведчыць статыстыка, беларусы жывуць так дрэнна, як амаль ніколі ў агляднаым мінулым. Сямейная эканоміка беларусаў, як у люстэрку, адлюстроўвае эканоміку краіны ў цэлым.

У Беларусі сёння пражывае 3 млн. 605 тыс. сем'яў. Амаль 38 працэнтаў з іх жывуць на вёсцы, 15,2% — у сталіцы, астатнія, зразумела, у іншых вялікіх і малых гарадах. Па памеры найбольш тыповымі з'яўляюцца сем'і з двух чалавек (такіх сем'яў 26,4%), сем'яў з трох і чатырох чалавек — па 21—22 працэнты.

## Пятля на калготках

У сярэдняй беларускай сям'і на прадукты харчавання, а таксама на алкаголь і тытунь расходуецца каля 63 працэнтаў усіх даходаў. Зразумела, што на ўсё астатняе застаецца няшмат. Таму, напрыклад, кожны месяц што-небудзь з адзення ці абутку купляюць толькі ~~дзве сям'і з трох, расходуючы на гэтыя мэты~~ ў сярэднім каля 500 тысячаў рублёў. Сума мізэрная, калі ўлічыць, што жаночыя калготкі, напрыклад, ужо каштуюць ад 120 да 300 тысячаў. Таму пятля на калготках можа стаць для беларускай кабеты натуральнай пятлёю.

Нашыя ўлады не выконваюць элементарных канстытуцыйных абавязкаў па забеспячэнні правоў кожнага грамадзяніна на годны ўзровень жыцця, уключаючы дастатковае харчаванне, адзенне, жыллё і неабходныя сацыяльныя ўмовы. Па-другое, калі ўжо і існуе няроўнасць у спажыванні, то яна павінна залежаць не ад таго, дзе жыве чалавек (у сталіцы ці ў вёсцы), а ад таго, як ён працуе. У нас жа атрымліваецца, што нейкая частка насельніцтва жыве ў адносна камфортных умовах вялікага горада, а вяскоўцы жывуць як у рэзервацыі.

## Асноўная крыніца даходу – уласны падворак

Калі паглядзець БТ ці пагартаць афіцыйныя газеты, то складаецца ўражанне, што ў нашай краіне ўсе эканамічныя пытанні кантралююцца, рэгулююцца і кіруюцца дзяржавай. Але ж гэта не так, а калі і так, то робіць усё гэта дзяржава вельмі неэфектыўна. Яна проста забрала ўсё лепшае і паводзіць сябе, як сабака на сене. А людзі, між тым, павінны неяк жыць.

Таму амаль 2/5 беларускіх сем'яў вядуць уласную падсобную гаспадарку, і для многіх яна стала асноўнай крыніцай існавання. Калі ўзяць грашовую частку даходаў сям'і, то доля заработнай платы ў ёй складае тыя ж 63%, што расходуецца на харчаванне ў структуры спажывецкіх расходаў. Інакш кажучы, усё, што зараблена, — праядаецца. Больш высокую ступень эксплуатацыі чалавека дзяржавай цяжка нават уявіць.

А ў вёсцы яшчэ горш. Тут даход сям'і фармуецца ў асноўным з трох практычна раўнацэнных крыніцаў: заработнай платы, пенсіяў і даходаў з падворку. Прычым вага зарплаты ў сямейным бюджэце пастаянна зніжаецца, таму падсобная гаспадарка становіцца самай стабільнай і рэгулярнай крыніцай даходаў. Сёння ўжо даволі звычайная з'ява, калі вясковая гаспадыня сама выпякае хлеб, а не купляе яго ў краме. А ўсё астатняе — у большасці гэта менавіта сваё. Нават у Мінску і вялікіх гарадах «хатняе паходжанне» мае кожны дзесяты кілаграм спажываемага мяса, у малых — кожны чацвёрты, не кажучы ўжо пра тую ж бульбу ды гародніну.

Калі ўсё гэта ацэньваць шчыра, то інакш як формай самаабароны насельніцтва ад неэфектыўнай дзяржэканомікі і не назавеш.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

# Таксі стала дэфіцытам

**У Гродне цяпер амаль немагчыма выклікаць па тэлефоне таксі, хаця ў горадзе існуе 9 фірмаў, якія маюць радыёфікаваныя машыны.**

Дэфіцыт узнік па прычыне таго, што з 1 красавіка ездзіць без таксометраў забаронена. Таму, напрыклад, у адной з фірмаў са 130 аўтамабіляў дзейнічае ўсяго 15.

На сённяшні дзень усталявана толькі 48 лічыльнікаў, а ў горадзе 1.200 прыватных таксоўцаў. Каштуе лічыльнік 7 млн. 800 тысячаў рублёў, за ўстаноўку трэба заплаціць яшчэ 375 тысячаў. Цана польскіх яшчэ вышэйшая — 12 млн. 400 тыс. рублёў. Аднак не гэта найбольш палохае шафёраў.



*Няўжо і ў Мінску «злавіць» таксі будзе праблемай?*

Праблема ў тым, што прыблізна 70% усіх таксі — гэта заходнія машыны, якія растаможаныя па льготным тарыфе, гэта значыць па 0,3 ЭКЮ за кубічны сантыметр рухавіка. Гэтыя машыны для перавозкі пасажыраў выкарыстоўваліся, па сутнасці, напаўлегальна, бо, як вядома, дзяржавай зацверджаныя нерэальныя тарыфы для тых, хто мае намер легальна выкарыстоўваць куплены за мяжой аўтамабіль у камерцыйных мэтах. У такім разе трэба заплаціць за растаможанне па 5 ЭКЮ за кубічны сантыметр, рэальна гэта можа быць нават каля 10 тысячаў долараў. Такім чынам, кошт растаможвання ў некалькі разоў можа перавысіць кошт самой машыны. А без гэтага таксометр усталёўваць няма сэнсу.

Якім можа быць выйсце з тупіковага становішча? Самі шафёры маюць надзею на тое, што міністэрства транспарту ўсё ж адмовіцца ад таксометраў. У гарвыканкаме, наадварот, спадзяюцца на тое, што будуць зменены абсурдныя мытныя тарыфы. Калі гэта сапраўды адбудзецца, гарадскія ўлады лічаць, што да 1 ліпеня каля 60% прыватных таксі зноў змогуць перавозіць пасажыраў. Але гэта пакуль толькі прагноз.

Большасць гродзенскіх таксоўцаў працавала сёлета на палову стаўкі, сплачваючы адпаведна і палову фіксаванага падатку — 500 тысячаў рублёў. Такім чынам, гарадскі бюджэт меў штомесяц каля 600 млн. рублёў. У красавіку пакуль гэты паказчык рэзка зменшыўся ў 25 разоў.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

*Словакия*

## Пока без президента

**В Словакии продолжается конституционный кризис.**

Парламент, который избирает президента, уже месяц после ухода Михаля Ковача не может избрать главу государства. Ни один из трех претендентов не может набрать необходимого количества голосов. Очередной тур президентских выборов назначен на 16 апреля.

На пост президента претендуют адвокат Милан Сещански от Движения за демократическую Словакию, Бригита Шмогнерова от оппозиционной Партии левых демократов и независимый кандидат Здено Сушка. Реальный шанс есть только у Сещански, который баллотируется от партии парламентского большинства. К этой партии принадлежит и премьер-министр страны Владимир Мечар. Он имеет репутацию диктатора у словацкой оппозиции, Европейского Союза, США и международных правозащитных групп. Мечар отменил референдум, в результате которого выборы президента стали бы всенародными. В связи с этим Словакию исключили из первого раунда переговоров о членстве в ЕС и *NATO*.

*Португалия*

## Самый большой мост в Европе

**Такой мост построен в Португалии.**

Символом духа обновления, с которым страна подходит к началу нового тысячелетия, назвал президент Португалии Жоржи Сампайю 17-километровый мост «Васко да Гама» через реку Тежу, соединяющий Лиссабон с расположенным на другом берегу городом Сакавем.

Это крупнейшее из подобных сооружений в Европе было введено в строй в преддверии всемирной ярмарки «Экспо-98», выставочные площади которой раскинутся на берегах Тежу с мая по сентябрь. Мост стоимостью около 1 млрд. долларов впервые позволит пустить в обход Лиссабона интенсивные транспортные потоки, связывающие север и юг Португалии, и тем самым значительно разгрузить столицу, задыхающуюся от автомобильных пробок и выхлопных газов.

*Индия*

## Возрождение династии

**После шести лет перерыва во главе партии Индийский Национальный Конгресс снова встал представитель династии Неру-Ганди.**

На пост председателя партии избрана Соня Ганди, вдова погибшего от рук террористов бывшего премьер-министра Раджива Ганди. До него этот пост занимала его мать Индира Ганди, а еще раньше — его дед Джавахарлал Неру. Соня Ганди возглавляет парламентскую фракцию ИНК, что и ей дает теоретическую возможность стать однажды премьер-министром.

ИНК, самая старая партия Индии, образованная в 1885 году, пришла к власти после обретения Индией независимости в 1947 году и правила страной более 40 лет.

После победы на парламентских выборах правонационалистической партии Бхаратия Джаната ИНК находится в оппозиции.

*Украина*

## Киев приглашает Москву

**Украина пригласила Черноморский флот России принять участие в учениях «Си Бриз-98».**

Украинско-американские учения «Си бриз-98» пройдут с 25 октября по 4 ноября в северной части Черного моря. Планируется пригласить к участию в них военно-морские силы Болгарии, Греции, Грузии, Италии, Канады, Румынии, Турции и Франции. Как ожидается, Черноморский флот России в случае его согласия на участие в учениях будет на третьем месте по количеству сил и средств, привлекаемых к маневрам. Организаторы учений хотели бы, чтобы от Черноморского флота в учениях участвовали фрегат или корабль подобного класса, десантный корабль, подводная лодка, взвод морской пехоты и четыре самолета.

В ходе «Си бриз-98» будут отработаны миротворческие операции, в частности, оказание гуманитарной помощи стране, на территории которой произошло землетрясение. Кстати, в 1997 году Россия отказалась принимать участие в учениях «Си бриз», ссылаясь на провокационный характер их сценария.

*Эстония*

## Русским помогут

**Правительство Эстонии одобрило основные тезисы программы интеграции некоренного населения в эстонское общество.**

Советник премьер-министра Эстонии по вопросам национальных меньшинств Евгений Голиков так сформулировал основные направления программы интеграции: политика, экономика, образование. Каждый из этих пунктов можно расшифровать.

В политической сфере Эстонское государство заинтересовано в том, чтобы некоренное население более активно принимало участие в политической жизни. При этом особенно важно, чтобы это участие происходило в рамках лояльности и без радикализма. Одним словом, нужно создавать и пестовать новую политическую элиту, отличную от ныне действующих «русских» партий.

В экономике Эстонии роль некоренного населения достаточно велика. Однако бизнесменам–неэстонцам трудно сделать карьеру западного образца. Поэтому «русский бизнес» часто не осознает себя частью происходящих в Эстонии процессов и действует по собственным законам. В результате — сильная криминализация.

В области образования все начинается со средних учебных заведений. В Эстонии существуют эстонские школы, которые учат детей с учетом новой реальности, и русские, учебный процесс в которых протекает по российским программам. В результате выпускнику русской школы легче поступить в российский университет, чем продолжить образование в Эстонии.

*Россия*

## Брежневские звезды из-под полы

**Сотрудники Московского уголовного розыска задержали крупного дельца подпольного антикварного рынка, у которого изъяты четыре «Золотые Звезды» Героя, принадлежавшие некогда генсеку ЦК КПСС Л.Брежневу.**

Как сообщила российская «Независимая газета», некий Александр Карманов зарегистрировал на имя жены «Музей военной истории», став его директором. Общаясь с родственниками видных деятелей СССР, он входил к ним в доверие и просил передать для открывающейся на Поклонной горе в Москве выставки, посвященной «героям страны, какие-нибудь редкие вещи».

Делец сумел войти в доверие к родственникам Леонида Брежнева, маршалов С.Буденного, Г.Жукова, С.Тимошенко, К.Рокоссовского. Большинство из них передавали безвозмездно А.Карманову семейные раритеты, другие брали небольшой залог. В итоге у дельца оказались пять «Золотых Звезд» Героя Советского Союза, ордена Красного Знамени, Октябрьской Революции, другие награды бывшего СССР.

Сотрудники МУРа задержали А.Карманова у антикварного магазина в момент, когда он собирался сбыть наградную парадную саблю и ятаган.

# Чернобыльская трагедия может повториться

**Авария на четвертом, разрушенном реакторе Чернобыльской АЭС возможна в любой момент.**



*Поврежденные взрывом конструкции четвертого энергоблока, находящиеся внутри «саркофага», готовы обрушиться в любой день*

Во всяком случае, так считает человек, знающий истинное положение дел на Чернобыльской АЭС куда лучше простых смертных.

Согласно утверждениям замдиректора станции Валентина Купного,сделанным в украинских СМИ, авария на объекте «Укрытие» (четвертый, разрушенный реактор) Чернобыльской АЭС возможна в любой момент. По его словам, поврежденные взрывом конструкции четвертого энергоблока, находящиеся внутри «саркофага», готовы обрушиться в любой день. Сложившаяся ситуация внушает ему, человеку, ответственному за происходящее на АЭС, самые серьезные опасения.

Несмотря на принципиальную готовность Запада выделить средства для реализации проекта «Укрытие-2», предполагающего строительство вторичного «саркофага», специалисты не могут прийти к общему мнению о том, каким ему быть. Причина этого — неопределенность в оценке истинной картины происходящего внутри завала, находящегося под «саркофагом».

Уровни радиации вблизи топливных масс превышают 1.000 рентген в час, тогда как для наступления лучевой болезни достаточно десятиминутного нахождения в подобных помещениях. Именно это усложняет проверку ядерноопасного материала внутри объекта, поскольку измерительная аппаратура просто отказывает.

В настоящее время ежегодные расходы Украины на содержание объекта составляют около 25 млн. долларов. Для стабилизации обстановки в «Укрытии» необходимо 750 млн. долларов. На сегодняшний день мировое сообщество выделило 400 млн. долларов, которые находятся на счете Европейского банка реконструкции и развития.

# Мина особого назначения

*Она оставила еще одну трещину в отношениях между Ригой и Москвой*

В ночь на понедельник в Риге в парке возле здания Российского посольства прогремел взрыв. По мнению специалистов, взорвалась противопехотная мина, спрятанная в одном из мусорников в 50 метрах от посольства. Жертв нет.

Ни само здание посольства, ни другие дома в округе не повреждены. Единственный ущерб, нанесенный взрывом, — разбитые стекла посольских машин. По мнению полиции, подойти ближе взрывникам помешала охрана посольства. На место происшествия к 3 часам ночи прибыл министр внутренних дел Зиедонис Чеверс, который встретился с послом России Александром Удальцовым. Посол России считает, что взрыв осуществлен людьми, стремящимися обострить отношения между обеими странами.

МИД России высказался жестче. Из его заявления следует, что этот террористический акт является результатом *«нагнетания в последнее время антироссийской истерии в Латвии, поощрения национализма и экстремизма»*. Российская сторона решила потребовать от латвийских властей решительных мер и наказания виновных.

В свою очередь МИД Латвии распространил заявление, в котором осудил всякие действия, направленные на то, чтобы дестабилизировать внутриполитическую обстановку в государстве и дискредитировать Латвию в глазах других государств.

В связи со взрывом состоялось внеочередное совещание руководства всех управлений и отделений полиции Латвии, в котором участвовал также и президент Латвии Гунтис Улманис. На данный момент прорабатываются все возможные версии происшедшего, однако представители полиции решили их пока не раскрывать. На совещании решено усилить охрану и патрулирование объектов, где будут происходить какие-либо массовые мероприятия.

Практически все учреждения, находящиеся в подчинении МВД, переходят на работу в усиленном режиме. Создан специальный штаб по расследованию преступлений.

**Вероника ФЕДОРЕНКО**

# Дело не в Климентьеве

*А в избирателях, готовых голосовать за кандидата от преступного мира*

**Выборы мэра в Нижнем Новгороде, на которых победил дважды судимый Андрей Климентьев, признаны недействительными, а победитель посажен в СИЗО.**

Москва всполошилась. «Президент глубоко озабочен» результатами выборов главы администрации Нижнего Новгорода, поведал миру Сергей Ястржембский. Вслед за Борисом Ельциным проблемой занялись те, кому по долгу службы положено разделять озабоченность главы государства. С резкими заявлениями выступили и председатель Центризбиркома, и новоявленный и.о. министра внутренних дел, и генпрокурор. Носители власти возмутились появлением в своих рядах человека с криминальным прошлым и будущим. Кроме того, для многих было невыносимо сознавать, что на пост мэра города, считающегося цитаделью российской демократии, избран рецидивист — мошенник и казнокрад. Такого позора власть стерпеть не могла и прибегла к экстренным мерам.

Для начала местная избирательная комиссия признала выборы недействительными. А 2 апреля Климентьеву изменили меру пресечения и взяли под стражу. Абсолютно очевидно, что популярность нежелательного кандидата теперь только возрастет — народ склонен идеализировать «обиженных властью». Так что, сказав «А», Москве придется говорить «Б» и сделать все, чтобы уберечь нижегородцев от повторного неправильного решения — в следующем избирательном бюллетене фамилия Климентьева не должна появиться.

Поначалу, узнав об аннулировании результатов голосования, Климентьев хорохорился: *«На новых выборах я наберу 95 процентов»*. Ему следовало бы оговориться: *«Если не получу новый срок»*. А это представляется вполне вероятным — в разгаре очередной судебный процесс против несостоявшегося мэра. Прокуратура убеждена, что подозреваемый присвоил казенные деньги, а также обоболгал Бориса Немцова, обвинив его во взяточничестве.

### Городской главарь

Позицию обвинения укрепляют некоторые важные детали биографии подсудимого: еще в позднебрежневскую эпоху он начал «мотать» первый срок — восемь лет за мошенничество. В те годы кандидат в градоначальники промышлял картами и даже приобрел в этом качестве всесоюзную славу. «Коллеги по работе» говорят о нем только хорошее. *«Я-то лично с ним незнаком, —* поведал мне один из московских профессиональных картежников, *— но человек он известный. Во-первых, у него золотые руки, с картами, говорят, такое творит — во сне не приснится; во-вторых, вообще сильно играет: считает молниеносно и соперника насквозь видит. И, наконец, долгов за ним вроде не числится. Последнее время он, правда, от игры отошел, большие дела крутить начал. Так это многие. Но вот, что в мэры дергаться стал... Это ошибка — в нашей профессии так светиться нельзя...»*

С «большими делами», впрочем, тоже вышла незадача. Ровно год назад бизнесмен был признан виновным и получил полтора года за расхищение правительственного кредита в размере 2,5 миллиона долларов, который он получил с помощью будто бы самого Бориса Немцова. (В былые времена они дружили.)

Неудивительно, что наибольшее беспокойство по поводу дальнейшего развития нижегородских событий охватило Бориса Немцова. Судя по всему, бывшие добрые приятели немало знают друг о друге, и Немцов явно боится, что кресло нижегородского мэра достанется Андрею Климентьеву. Одно дело, если тебя в коррупции обвиняет уголовник, и совсем другое — всенародно избранный отец родного города.

Учитывая все эти обстоятельства, следует признать, что шансы Андрея Климентьева на успешное продолжение политической карьеры близки к нулю. Теперь кандидату от преступного мира уделяется такое внимание, что второй раз так легко ему явно не отделаться. Только по делу о клевете Климентьеву грозит три года лишения свободы. Вряд ли его будут помнить так долго. Даже те, кому он сегодня обещает прибавку к пенсии.

**Александр РЫКЛИН,**
*Итоги*

# Эра «калашникова» закончена

**Недавно президент России вручил именной пистолет оружейному конструктору дважды герою социалистического труда Михаилу Калашникову. Между тем легенда о созданном им «лучшем автомате всех времен и народов» вот уже четверть века не соответствует действительности.**

Убеждение, что АК — лучший автомат всех времен и народов, основывается на его небывалой распространенности: «калашниковым» сегодня вооружены армии 55 стран.

Но воспроизведите честно историю любого вопроса — и вы получите, может быть, неприятную, но верную трактовку этого факта. Вот пример, простой, но доходчивый. Водка, как известно, бывает хорошая или дешевая. Большинство потребителей упорно предпочитает дешевую, поэтому дешевой больше. Вытекает ли из этого, что дешевая водка — лучшая в мире? Нет, не вытекает. Более того, есть еще коньяк... Но именно такое сальто-мортале происходит в обыденном сознании с АК: его много — значит, он лучший.

Все проясняется, стоит только посмотреть, какие страны вооружились «калашниковым» — Китай, Польша, Ботсвана, Центральноафриканская Республика, Гвинея, Габон и другие борцы с империализмом, которым СССР подарил заводы либо документацию по производству автомата. Причем в большинстве этих стран, кроме АК, стоят на вооружении и другие системы, получше.

АК для своего времени действительно явился крупным шагом вперед. Конструкторская мысль тогда (разгар войны) оказалась в тупике. Автомат, который должен был срочно заменить в советской армии допотопную по сравнению с немецким оружием винтовку Мосина, получался слишком сложным, неработоспособным. В этот-то момент и появился Калашников со своей конструкцией, главными достоинствами которой были крестьянская простота и надежность. Автомат можно было разбирать и собирать вслепую, он не имел ни одного винта, его не портили дождевая сырость или грязь. Удачным оказалось не только техническое решение. Калашников поразительно точно угадал социальную нишу, которую ему предстояло заполнить. Именно такое оружие было по плечу советской технически несовершенной промышленности и технически неподготовленному советскому солдату — как правило, выходцу из деревни. Вот в чем состояла гениальность его детища. Оно идеально соответствовало требованиям и возможностям момента. Успех АК был вполне заслуженным.

Однако когда требования и возможности стали более высокими, автомат Калашникова отвечать им уже не мог. В конце 50-х — начале 60-х за рубежом и в СССР были созданы более совершенные конструкции. Обновил свой автомат и Калашников. И хотя на испытаниях его модель проиграла по всем статьям другой отечественной разработке (Александра Константинова), волевым решением партийного руководства в производство был запущен слегка видоизмененный «герой» прошлых лет. Так началось отставание в этой области, которое на сегодняшний день можно сравнить разве что с отставанием в автомобилестроении: у них — «Вольво» и «Мерседес», в России — «Москвич», а то и ЗИС-5.

Как же получилось, что технически устаревшее изделие пошло гулять по свету и тиражируется до сих пор? Давайте зададим себе простой вопрос: если АК так хорош, то почему его не производят США, Франция, Япония и другие промышленно развитые страны? Никаких технических или юридических препятствий для этого не существовало и не существует. АК не запатентован. А если б и был запатентован!... Ведь вот когда в СССР был изобретен способ конвертерной разливки стали, те же американцы, японцы и другие тут же выложили нам за лицензию весьма кругленькие суммы. Ответ: не нужен им «калашников». Стратегическое направление развития оружия, которое выбрали эти страны, лежало в стороне от АК. Или АК лежал в стороне. Задаче «убивать максимум людей за минимум времени» он не отвечал. Попытки научить его стрелять быстрее закончились крахом — не позволили особенности конструкции.

Тогда возникает другой вопрос: почему те, кто выпускает невеженкий по сегодняшним меркам АК, не покупают у США хорошие автоматы или лицензию на их производство? Дорого, а многим еще и культуры технической не хватает. А спереть нельзя, на страже интеллектуальной собственности в развитых странах стоят тысячи юристов. Попробуй какой-нибудь смельчак украсть у американцев хоть самое завалящее изобретение — он будет самым законным образом, по решению международного суда, раздет и разут жуткими денежными штрафами и вдобавок его публично выпорют. А тут... Не самая плохая в мире «стрелялка» почему-то не запатентована, юридически не защищена. Предприимчивым ребятам выпал единственный шанс грести чужое, не нарушая закона, и они его использовали на сто, а может, тысячу процентов. Вот и клепают неприхотливых «калашниковых» сразу в 12 странах, и хотя продают по баснословно низкой цене (30 — 50 долларов штука), имеют большие прибыли. В этом и заключается истинная привлекательность АК.

Лет через 20 после его рождения уже появились автоматы получше. Но приобретать «стрелялку» по цене металлолома и делать дурные деньги можно только в случае с АК.

Итак, не сверхъестественное совершенство конструкции стало причиной повсеместного распространения АК, а наоборот: повсеместное распространение создало ему небывалую славу, в тени которой неспециалисту не видны намного превосходящие его современные автоматы.

**Александр НИКОНОВ,**
**Владимир ЗАСЕЛЬСКИЙ**
*(журнал «Огонек», Москва)*



*Если нет оружия, то можно воевать и с помощью «калашникова».*

## Ленин, Гитлер и другие

**Американский журнал «Тайм» начинает серию спецвыпусков, посвященных людям, которые повлияли на ход всемирной истории XX века.**

Первый выпуск расскажет о 20-ти личностях, среди которых политики и революционеры. Это Маргарет Тэтчер, Уинстон Черчиль, Владимир Ленин, Гитлер, аятолла Хомейни, Индира Ганди, Михаил Горбачев, Нельсон Мандела, Лех Валенса, Хо Ши Мин, Мао Цзе Дун и неизвестный китайский студент, который преградил дорогу танкам во время восстания на пекинской площади Тяньаньмынь.

Следующие выпуски осветят жизнь еще 80-ти исторических личностей этого века, а в декабре 1999 года журнал назовет имя «Человека XX века».

## Кусочек земли за 10 долларов

**По сообщению агентства «Рейтер», российский спутник доставил на Землю фотографии земной поверхности, которые поступят в продажу.**

Это самые четкие снимки из всех, которые поступали на рынок, на них можно различить объекты размером менее двух метров. Этот проект объединил американскую фирму «Эриал Имаджиз Инкорпорейтед» и российскую «Совинформспутник», которая является своеобразным подразделением Российского космического агентства. В зависимости от формата, снимки будут стоить от девяти до двадцати пяти долларов. Фирма «Кодак» отпечатает плакаты высокого качества. Фотографии можно будет свободно найти в Интернете, будут выпущены и лазерные компакт-диски.

## 7,5 миллиардов долларов для «братьев меньших»

*Именно в эту сумму американцам обошлось поддержание здоровья домашних животных в прошлом году*

В американских семьях живут 52 миллиона собак и 60 миллионов кошек. Медицинское обслуживание «меньшего брата» составляет около 200 долларов в год, не считая операций и страховки. Спрос рождает предложение. Теперь животным делают и сложные «человеческие» операции, например, пересадку органов или операции на сердце. Армия ветеринаров пополняется узкими специалистами, такими, как токсиколог, анестезиолог и звериный психолог.

Кроме того, 3 миллиарда долларов американцы тратят на подарки своим любимцам — собачьи рюкзаки, ботиночки и радиоуправляемые мыши для кошек.

## Свистать всех наверх!

**В 2002 году, ровно через 90 лет после гибели знаменитого «Титаника», которая унесла больше полутора тысяч жизней, точная копия корабля отправится по тому же маршруту.**

Швейцарская газета «Зоннтагс Цайтунг» пишет о том, что в Базеле создана компания «Уайт Стар Лайн» — именно так называлась компания, которой принадлежал «Титаник». Эта швейцарская компания займется строительством суперлайнера, которое по первоначальным оценкам обойдется в 400-600 миллионов долларов. А финансирование должна взять на себя созданная в этом году американская компания «Тайтэник Девелопмент».

## Нью-Йорк – город одиночества

**Как установили здешние социологи, в Нью-Йорке на 1,8 миллиона одиноких женщин приходится 1,3 миллиона одиноких мужчин.**

Главный вывод исследования заключается в том, что представительницы прекрасной половины человечества переносят одиночество легче, чем сильный пол. Опросив тысячу нью-йоркцев традиционной сексуальной ориентации в возрасте от 21 года до 40 лет, исследователи выяснили, что лишь 30 процентов одиноких женщин стремятся найти партнера для устройства личной жизни. Для мужчин аналогичный показатель составляет 35 процентов.

27 процентов опрошенных женщин заявили, что ни с кем не встречаются и тем не менее вполне счастливы. Доля мужчин, нашедших подобное «счастье», на 10 процентов ниже. По словам социологов, переступив порог в 30 лет, одинокая жительница Нью-Йорка обычно охладевает к романтическим отношениям. Треть представительниц этой категории признали, что у них «никого нет», и 29 процентов решительно заявили, что не испытывают никакого желания выйти замуж. Тем не менее каждая десятая признала, что на нее время от времени наваливаются тяжелым грузом мысли о том, что придется коротать век в одиночестве. Статистика и в самом деле невеселая, однако, по словам экспертов в области демографии, вполне характерная для крупного города. Большое Яблоко, как шутливо именуют Нью-Йорк, часто называют столицей — финансовой, культурной, но только не влюбленных. Почти половина опрошенных, бывавших в других районах Америки и имевших там возлюбленных, утверждают, что найти любовь в Нью-Йорке гораздо труднее. А те, кто все-таки нашел спутника или спутницу жизни, говорят, что в холодных «каменных джунглях» на Гудзоне огонь любви не греет так, как в других городах.

**Юрий КИРИЛЬЧЕНКО**

## Даже в Америке «уходят» от налогов

**1.137 американских граждан опровергли известную поговорку, утверждающую, что американцы не могут избежать только смерти и уплаты налогов.**

Но не о бессмертии идет речь, — этим богатым людям с годовым доходом более 200 тысяч долларов удалось в 1994 году воплотить мечту каждого американца — не заплатить ни одного цента подоходных налогов, не нарушив при этом действующих законов.

Такой вывод содержится в обнародованных на прошлой неделе результатах исследования, проведенного американской службой внутренних доходов (СВД).

Дело в том, что по законодательству людям, выделяющим средства на общественно полезные цели, делающим пожертвования, облегчают налоговое бремя. В итоге гражданин лишается меньших средств, чем если бы он просто платил всю сумму налога в соответствии со своим достатком. В редких случаях, как оказалось, можно не отдавать государственной казне ничего.

В то же время, как выяснилось, число богатых «уклонистов» блекнет перед 24 миллионами граждан со средним или низким достатком, составляющим менее 50 тысяч долларов в год, которым в 1994 году удалось избежать налогового бремени, не сделав при этом даже пожертвований. Части этих граждан оказана государством финансовая поддержка в виде временного освобождения от налоговых выплат. Не должны ничего государству и те, кто, работая не полный рабочий день, просто слишком мало получает.

**Василий РОМАНЦОВ**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1174 Нумар падпісаны ў друк 07.04.98 (15:00) Наклад — 19.630